# КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ.

**Як пазнаць краіны сьвету бяз компаса і карты.**

Для гэтага трэба палажыць гадзіньнік на ладонь рукі і накіраваць стрэлку гадзіньніка ў бок сонца. Тады лінія (напрыклад, карандаш), што праходзіць паміж гадзіннай і хвілiннай стрэлкай, будзе паказваць на поўдзень тым канцом, які бліжэй к сонцу (гл. малюнак 1-ы).



Мал. 1.



Мал. 2.

Калі вам патрэбна даведацца аб краінах сьвету ўночы, дык адшукайце сузор'е Вялікай Мядзьведзіцы і надаўгат правядзеце лінію, якая праходзіць праз дзьве крайнія зоркі (гл. мал. 2), што ўтвараюць коўш. Ваша лінія ўпрэцца ў даволі яркую Палярную зорку, якая і пакажа поўнач.

Нават і без гадзіньніка можна ўгадваць па некаторых мясцовых прадметах. Зелень паасобных дрэў заўсёды будзе гусьцейшай на паўднёвым баку, мох на дрэвах расьце з паўночнага боку, кругі на сьпілаваных пнёх шырэйшыя з паўднёвага боку.

**Што патрэбна, каб наладзіць палатку.**

У паходзе заўжды трэба мець палкі і вяроўку для таго, каб можна было паставіць палатку ў любы момант (напрыклад, калі патрэбна схавацца ад дажджу). Палкі лепш усяго рабіць з цьвёрдага дрэва. Забіваць у зямлю палкі трэба драўляным малатком, бо жалезным можна лёгка разьбіць палку.

Вяроўка для палатак патрэбна моцная і лёгкая. Вяроўкі трэба ўзяць прыблізна 40—50 мэтраў на атрад бо гэткая рэч заўсёды спатрэбіцца. Лепш усяго парэзаць яе на кавалкі па 5 6 мэтраў і раздаць паасобным удзельнікам паходу. Вяроўку трэба зматаць так, каб пасьля лёгка было яе разматаць. На мал. 3 паказана як зматаць вяроўку.

**Фільтр для абчысткі вады.**

У паходзе часамі не заўсёды можна мець добрую ваду для піцьця. Аднак-жа, іншы раз даводзіцца піць тую ваду,

(*Працяг гл. на 24 стар.*).

---

ЗЬМЕСТ



Рэдколегія: БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

Инв. 12 8

*Год выданьня 4-ы.*

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 12** **ЧЭРВЕНЬ** **1928 г.**

## Гэтых дзён не забыцца.

*(Успаміны піонэра).*

Дзень быў пахмурны. Сонца хавалася за хмары. Горад быццам замёр з самай раніцы. Толькі дзе-ні-дзе можна было ўбачыць бягучага чалавека.

Бальшавікі адступалі і былі ўжо далёка, а белапалякі ўсё яшчэ ня прыходзілі. Прыблізна а першай гадзіне дня на вуліцы зьявілася першая банда белапалякаў. Каля іх сабралася кучка „тутэйшых“ жыхароў (палякаў). Яны хадзілі разам з палякамі і паказвалі, дзе жывуць комуністыя і дзе магчыма што-небудзь украсьці.

Усё насельніцтва пахавалася ад нечаканых гасьцей у сутарэньні, шчыльна пазачыняўшы дзьверы.

На вуліцы белапалякі ўбачылі яўрэя, які, згледзіўшы іх, хацеў уцякаць, але моцная рука аднаго з белапалякаў затрымала яго. Гэтага яўрэя падвялі да аднаго з дамоў, пасадзілі на зямлю і зьнялі боты. Потым яны пачалі біць яго прыкладам вінтоўкі і, калі ім гэткая справа абрыдла, адпусьцілі босага. Пасьля гэтага ў нашы дзьверы нехта стаў моцна стукаць і праз некаторы час, праламаўшы іх, партыя белапалякаў увалілася ў хату. Яны зараз-жа ўзяліся за працу. Усё, што толькі пападалася пад рукі, хваталі і кідалі на вуліцу, дзе стаяла кучка народу і хватала ўсё, што толькі магла. Калі гэтая партыя выходзіла, ёй на зьмену прыходзіла другая, і так усю ноч, кожны з гэтых бандаў лічыў за гэройства зьдзеквацца над жыхарамі (асабліва яўрэямі).

Праз тыдзень каля 90% яўрэйскага насельніцтва наняло таварны цягнік і паехала ў Менск, думаючы, што там будзе лепш. Дарога цягнулася больш за тыдзень.

У Менску жыцьцё не паправілася. Прышлося ехаць назад у Барысаў.

Гэтак цягнулася каля году, да ліпеня 1920 году. У гэты-ж час Чырвоная Армія, пры дапамозе працоўных гор. Барысава, выгнала белапалякаў з гораду.

**Н. Райнэс.**

Н. Барысаў.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

**Грымі, зьвіні, юнацкі кліч:**
**Шырэй, шчыльней атрады!**
**Мы верым, што на ўсёй зямлі**
**Працоўных будзе ўлада.**

# Да дзевятай гадавіны вызваленьня Беларусі.

*(Артыкул старшыні ЦВК БССР Алеся Чарвякова).*

### Перамога рэволюцыі.

Расійскі царызм, які душыў і прыгнятаў усё нярускае, які хацеў стварыць пераважна лепшыя ўмовы для расійскае буржуазіі, выклікаў проці сябе зразумелую нянавісьць у Польшчы з боку ўсіх колаў насельніцтва, якое сваю нянавісьць да расійскага царызму пераносіла на „маскалёў“, г. значыць, на ўсё расійскае. Вось гэта і хацела выкарыстаць замежная буржуазія.

У сваёй барацьбе супроць Савецкае ўлады французскія капіталістыя, ідучы папрадзе другіх капіталістых, выкарысталі нацыяналістычныя настроі ў Польшчы, дапамаглі польскай буржуазіі організаваць войска і накіравалі гэта войска на „маскалёў“.

Але яе хітрыкі не ўдаліся. Наступленьне Польшчы па загаду францускага генэральнага штабу пачалося ня супроць старой Расіі, а супроць Савецкае Рэспублікі, дзе ўладарамі жыцьця сталі рабочыя і сяляне, якія, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, скінулі цара, прагналі буржуазію, вызвалілі ўсе прыгнечаныя народы і пачалі будаваць соцыялістычнае жыцьцё, як хаўрус вольных і роўных народаў. Буржуазія думала, што рэвалюцыя разбурыла дзяржаўнае жыцьцё ў Расіі і таму ёй лёгка дастанецца перамога над Саветамі, зьнішчыць якія яна марыла. Але тое, аб чым буржуазія думала, як аб слабасьці, аказалася вялізарнай сілай Саветаў: Кастрычнікавая Рэвалюцыя, зруйнаваўшы царскую дзяржаву, заклікала да дзяржаўнага жыцьця мільёны рабочых, як правадыроў усіх працоўных, яна падняла на барацьбу многія мільёны сялян, яна зьбірала прыгнечаных усяго сьвету на барацьбу за сваё вызваленьне.

Наступленьне буржуазнае Польшчы на Савецкія Рэспублікі не ўдалося.

Першая прычына няўдачы: польская буржуазія пачала вайну ня проці прыгнечаньня расійскага царызму, а проці ўлады рабочых і сялян. Польскае войска спаткала магутны адпор Чырвонае рабоча-сялянскае арміі. Чырвоная армія ў Польскай арміі бачыла сусьветных жандараў, якія ідуць ізноў устанавіць парадкі старых часоў, часоў прыгону, зьдзеку, прыгнечаньня. У шэрагу Савецкіх Рэспублік стаяла першай Савецкая Беларусь, якая організоўвала рабочых і сялян Беларусі на барацьбу супроць сваіх векавых ворагаў—польскіх паноў. Сусьветны жандар ударыўся аб сталёвую сілу працоўных.

Другая прычына ў тым, што інтарэсы польскіх паноў і працоўных Польшчы неаднолькавыя. Тое, што добра пану, не патрэбна польскаму рабочаму і селяніну. Таму і было так: паны распаўсюджвалі чуткі аб бальшавіцкім імпэрыялізьме, пужалі маскоўскай навалай, каб павесьці польскіх салдат супроць Саветаў, супроць „маскалёў“, г. значыць, супроць усяго таго, што пакінуў пасьля сябе царызм. Рабочыя і сяляне Польшчы, адзетыя ў вопратку легіянэраў, мала-па-малу пазнавалі праўду аб сутнасьці Савецкае Рэспублікі, якая паўстала на руінах старой Расіі, здагадваліся аб абмане іх панствам, пачыналі хварэць бальшавізмам, адказваліся ваяваць. Нават сярод пазнанскіх палкоў, дзе ў пераважнай большасьці былі сыны кулакаў і больш заможных частак насельніцтва, пачаліся непаразуменьні.

Трэцяя прычына—дапамога Савецкім Рэспублікам сусьветнага пролетарыяту. Ува ўсіх дзяржавах падняўся шырокі рух рабочых за дапамогу Саветам. Ангельскія рабочыя ўтварылі „Камітэты абароны Саветаў“ (Комитеты действия)—пачаліся забастоўкі чыгуначнікаў, рабочых парахавых, пушачных, амуніцыйных заводаў і фабрык. Французскія, аўстрыйскія, нямецкія рабочыя спынялі цягнікі з зброяй, амуніцыяй, харчамі для польскай арміі. Рух за абарону Саветаў пераходзіў у рух проці ўласнай буржуазіі, проці буржуазных урадаў.

Пачаўся адыход польскай арміі з абшараў Савецкіх Рэспублік, з абшараў Савецкай Беларусі.

Мы ўсе добра памятаем гэтыя дні. Польскія паны Барысаў расстралялі. Бабруйск узарвалі. Менск і другія гарады

палілі з усіх бакоў. Усюды адбыліся яўрэйскія пагромы. Дабро вазамі вывазілі за сабою. Вёскі гарэлі, лясы нішчылі, масты рвалі. Як некалі Нэрон паліў Рым, каб пацешыць сваё мастацкае пачуцьцё, генэрал Шэптыцкі загадаў паліць Слуцак у той час, як ён—„вялікі заваявацель“—будзе ехаць па шашы на Нясьвіж. Гвалты, зьдзекі над кабетамі. „З дымам і пажарамі“адыходзілі паны і гэтым убівалі ў галовы рабочых і сялян яснае разуменьне таго, што пан абараняе толькі сваё і для сябе: калі-ж ён траціць, то лічыць, што калі ня пану, дык і другім няхай не застаецца.

Мы ўсе добра памятаем гэтыя дні і забываць іх ня маем права.

### Наша праца і дасягненьні.

Восем гадоў Савецкая Беларусь вядзе социялістычнае будаўніцтва.

Беларусь разам з усім Савецкім Саюзам шырока разгарнула працу па пабудове прамысловых прадпрыемстваў, стаўшы на шлях індустрыялізацыі і дабіваючыся таго, каб прамысловасьць заваявала кіруючую ролю ў нашай гаспадарцы.

У сельскай гаспадарцы мы закончылі ладзел зямлі паміж сялянамі. Цяпер трэба павялічыць даходнасьць сельскай гаспадаркі, якая палягчае працу сялянства, павялічвае даходнасьць гаспадаркі, больш шчыльна зьвязвае раздробленую сельскую гаспадарку з прамысловасьцю і наогул з усёй соцыялістычнай гаспадаркай Савецкай дзяржавы.

Год ад году паляпшаецца становішча Савецкае Беларусі, паляпшаецца становішча рабочых і сялян. Упартаю працай разам з Савецкім Саюзам і пры яго дапамозе мы ідзем наперад да лепшага, перамагаем бяду, беднасьць, някультурнасьць. Нашы дасягненьні значныя. Нашы патрэбы яшчэ большыя. Многа намі зроблена. Зрабіць трэба шмат больш. Але-ж мы свабодныя, мы самі ўладары жыцьця, наша моладзь выхоўваецца ў вольнай краіне. Калі ня здолеюць соцыялістычную працу старэйшыя, яе скончыць наша моладзь, наша Чырвоная Зьмена. Шырэй дарогу Чырвонай Зьмене!

### Як жывуць ў Заходняй Беларусі.

Што дала панская Польшча Заходняй Беларусі? Вызваленьне? Права на кіраваньне сваім жыцьцём самаму народу? Вольнасьць? Усталявала можа адносіны, як да роўнае часткі? Можа хаця частку таго, аб чым пелі баяны польскае дэмакратыі—Аляксюкі і іх кампанія, дала Польшча Заходняй Беларусі?



*Польскія паны і ксяндзы расстрэльваюць рэвалюцыянэраў.*

Там паны зьвярнуліся ў свае маёнткі. Абшарнікі зьдзекуюцца пры дапамозе паліцыянтаў і жандараў над сялянствам.

Бежанцы-сяляне страцілі сваю зямлю, бо панамі быў выданы закон, што той, хто не вярнуўся з бежанства да 1921 г., траціць права на зямлю. Зямля перадана ці перадаецца панскім наймітам, прыслужнікам-асаднікам. Селянін стаў ізноў хлопам, над якім кожны ўрадовец можа зьдзеквацца, як ён хоча. Селянін сабе абароны проці пана ня знойдзе. Родная мова—„мужыцкая"—забараняецца. Настаўнікі ў беларускіх вёсках у большасьці палякі, якія лічаць, што з беларускім быдлам займацца вельмі цяжка. Рабочы гарue, бо фабрыкі працуюць 3—5 дзён у тыдзень. І рабочы і селянін імкнуцца да вызваленьня ад улады паноў. Так было пры Пілсудзкім, так было бяз Пілсудзкага, так цяпер ёсьць, калі фактычным дыктатарам Польшчы стаў ізноў Пілсудзкі.

Самы яскравы прыклад становішча рабочых і сялян Заходняй Беларусі дае ўсім вядомы працэс над „Сялянска-работніцкай Грамадой". Толькі за тое, што рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі ўтварылі організацыю „Грамаду", каб змагацца за зямлю, за школу на роднай мове, за зьнішчэньне падаткаў, супроць зьдзекаў і гвалтаў жандараў і адміністрацыі,— польскі ўрад прысудзіў кіраўнікоў грамады ў катаржную турму на 12 год. Польская дэмократыя яскрава даказала сваю буржуазную істоту, паказала, што так, як і кожная буржуазная дэмократыя, яна існуе дзеля таго, каб дапамагчы буржуазіі ўмацаваць сваё ўладаньне, каб мацней замацаваць уладу буржуазіі над працоўнымі.

**Нашы задачы.**

1. Трэба заўжды памятаць, што па адзіна-правільнаму шляху да вызваленьня, да лепшага соцыялістычнага жыцьця вядзе Комуністычная партыя—правадыр працоўных. Усякі, хто жадае шчыра працаваць на карысьць свайго народу,—дапамагай Комуністычнай партыі, ідзі пад яе штандары. Комсамол, піонэрыя, рыхтуйце зьмену старэйшым!

2. Толькі Савецкая ўлада забясьпечыла магчымасьць рабочым і сялянам Беларусі стаць гаспадарамі свайго жыцьця. Савецкая ўлада будуецца так, што рабочая кляса разам з сялянствам, яднаючы навакол сябе сялянства і вядучы яго, забясьпечвае правільныя інтэрнацыянальныя, у інтарэсах працоўных усяго сьвету, вырашэньні ўсіх пытаньняў соцыялістычнай справы і рэвалюцыйнай барацьбы. Трэба замацоўваць Савецкую ўладу праз умацаваньне хаўрусу рабочых і сялян.

3. Самай пэўнай гарантыяй незалежнасьці Савецкай Беларусі зьяўляецца існаваньне Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік—СССР. Саюз дапамог Беларусі адбіцца ад паноў; Саюз дапамог і дапамагае адрадзіць гаспадарчае і культурнае разьвіцьцё Беларусі, Саюз пільна сочыць, каб ніхто не ўмяшаўся ў справы Беларусі. Трэба шанаваць СССР, яго ўмацоўваць і пашыраць.

4. Многа працавалі мы над адбудоваю нашай гаспадаркі і пашырэньнем асьветы. Зроблена мала ў параўнаньні з тым, што трэба зрабіць. Не аслабляць тэмпу працы, паляпшаць сельскую гаспадарку, будаваць фабрыкі і заводы, ніводнага няпісьменнага не пакідаць, будаваць новыя гарады, паляпшаць матар'яльнае становішча рабочых і сялян, утварыць новыя ўмовы культурнага жыцьця. А гэта значыць дапамагаць індустрыялізацыі, колектывізацыі сельскай гаспадаркі і зьнішчэньня няпісьменнасьці.

5. Савецкая Беларусь знаходзіцца на мяжы з панскай Польшчай. У шуканьні выхаду з палітычнага крызісу паны могуць ізноў, ужо па загаду ангельскіх капіталістых, пачаць вайну проці Саветаў. Чырвоная армія стаіць на абароне нашай мяжы. Трэба любіць, шанаваць, дапамагаць вучыцца, організоўвацца, абсталёўвацца, узбройвацца Чырвонай арміі.

6. Пільна сачыць за барацьбой на Захадзе. Слухаць прызывы да дапамогі. Дапамагаць барацьбітам. Барацьба ня скончана. Ахвяры за вызваленьне ад панскага зьдзеку павялічваюцца.

7. Шанаваць памяць загінуўшых за рэвалюцыю, за вызваленьне Савецкай Беларусі. На гэроізьме памёршых выхоўваць нашу моладзь, нашу зьмену, як трэба рабіць, калі краіна ізноў пакліча сваіх сыноў на барацьбу. Пашана памёршым!..




Апавяданьне вучня *М. Матусэвіча.* Малюнкі *Вало.*

I

Цёмная васеньняя ноч паволі спускалася на зямлю і ўсё больш і больш абхаплівала яе сваімі чорнымі скрыдламі. Неба, абцягненае чорнай хмарай-заслонай, хмура глядзела на няясна вызначаныя рысы лясоў і ўзгоркаў, навяваючы нейкую жудасьць і бязьмерную нуду і трывогу. Усё зьлілося ў адзін чорны няясны ком, толькі невялічкі грэбень хваёвага бору чуць-чуць прыкметна тарчаў на ўзгорку на гэты бок шумна-бурлівай ракі Бярозы.

Вецер выў, як паранены дзікі зьвер, рваў пажоўклае лісьце з белых бярозак, што стаялі каля хваёвага бору ў лагчынцы, і разносіў далёка-далёка па полі.

Гэты злы вецер—вольны разбойнік бязьмежна шырокіх прастораў—дамалёўваў чорны малюнак васеньняй ночы ў нейкі новы жудасна-таемны колер.

А да воўчага завываньня ветру раз-заразам далучалі сваё аднатоннае „тра-та-та“ сталёвыя пеўні-кулямёты, ды гарматы-бабулі ўторылі адна другой сваім гулкім працяжным „бу-у-ух“. Так цягнулася некалькі доўгіх гадзін.

Здаралася, што яны на хвіліну змаўкалі, але потым з яшчэ большым запалам працягвалі сваю ўпартую заўзятую сварку.

Так і цяпер. Заскрыгаталі сваімі сківіцамі кулямёты, глуха гаркнулі гарматы сталёвымі горламі, і цёмная васеньняя ноч загула, затрэслася, загаварыла.

Сьцяпан стаяў пад кудлаватай бярозкай, слухаючы таямнічныя сьпевы куль і шрапнэляў, і сам сабе шаптаў:

— Во ўзяліся нешта... ліха іх ведае... У гэты момант у паветры пачулася працяжнае „ві-і-ізь“, і нешта моцна ахнула ў зямлю, а ўсьлед за гэтым бліснула зарніца, і стрэл, як пярун, ляснуў за паўгоняў ад Сьцяпана. Сьцяпан здрыгануўся ад нечаканасьці, але потым ні-то з усьмешкай, ні-то з дакорам, прамовіў:

— Ого, брат, які ты дасьціпны...

І на ўсялякі выпадак лёг на зямлю.

Раптам стрэлы пачалі адыходзіць далёка ў бок ад Сьцяпана. Гэта дало магчымасьць яму сабрацца з сваімі думкамі. Мільганулі ў галаве словы камандзіра роты: „Схадзі да бярозы і разьведай, ці...“

Сьцяпан абвёў вачыма цёмнае поле, падняўся на ногі і, узяўшы вінтоўку ў рукі, накіраваўся бярэзьнікам у бок хваёвага бору. Прайшоў гоняў са двое, прыпаў вухам да зямлі, прыслухаўся, але за шумам шалёнага ветру і навальніцы нельга было што-небудзь пачуць.

Цяпер бор быў ад Сьцяпана ня больш як на 50 крокаў, і ўсе яго думкі блудзілі ў нетрах няведамага лесу.

Сьцяпан азірнуўся па бакох, кінуў кароткі позірк на край бору і, узяўшы вінтоўку ў рукі, глуха, як чарвяк, папоўз чорнай баразной да лесу. Прапоўз крыху, падняўся на калені і глянуў у цемру. Перад ім адчыніўся малюнак лесу. Высокія размашыстыя хвоі глуха шумелі, усё роўна як стагналі. І было нешта, дзіўна-таемнае ў іх працяжным „шу-шу-у“, бо гэта быў ня звычайны просты шум бору, а нейкая жывая незразумелая казка бацькі лесу. Мо‘ расказваў лес ветру вольнаму пра ранейшае жыцьцё Беларусі, мо‘ скардзіўся на чужынцаў-паноў, якія руйнуюць абшары беларускія, а мо‘, як стары дзед па сыне, плакаў над нявы-

носна-цяжкай доляй сваіх родных сыноў-беларусаў.

Сьцяпан увайшоў у лес. Цемра глынула яго сваёй чорнай вялізарнай ляпай, і ён зьнік за сеткамі пераплеценага гальля дрэў. Сьцяпан сеў на трухлявы хваёвы пень і прасядзеў так некалькі хвілін, стараючыся лавіць кожны падазроны гук. Але вакол стаяў той-жа нясьціханы лясны шум і, як доўгая-доўгая нясьціханая песьня, будзіў пачуцьці, уздымаў рой успамінаў...

Сьцяпан яшчэ раз азірнуўся і спакойна, паволі накіраваўся далей у гушчарнік лесу. Раптам трэснуў пад нагамі сухі сук, і Сьцяпан з моцным акамяненьнем кінуўся на зямлю і моцна-моцна, як вуж, прыліп да яе сырых грудзей. І, усё роўна, як у адказ на гэта, за некалькі крокаў ад Сьцяпана мільганулі і схаваліся ў гушчары дзьве цені. Дыбам пасталі валасы на галаве Сьцяпана, а назойлівыя мурашкі забегалі па ўсім целе. Але ў той-жа момант Сьцяпан перамог страх, скінуў з сябе яго агідныя сеткі і сьмела заняўся разгляданьнем таго, што робіцца сярод цёмнай васеньняй ночы.

„А можа гэта зьвяры?“—мільганула ў галаве Сьцяпана. І, паддаючыся гэтай думцы, Сьцяпан супакоіўся.

Тымчасам неба прасьвятлела, і скрозь сіты дрэў Сьцяпан заўважыў перад сабой паляну. Ён падняўся на ногі і толькі пасьпеў глянуць наперад, як цераз паляну ізноў прамільгнулі і схаваліся дзьве высокія постаці.

Цяпер Сьцяпан зразумеў сваю абмылку, заўважыўшы высокі рост аднаго з гэтых „зьвяроў“. К таму-ж іх шпаркі бег і прысяданьне да зямлі гаварылі за тое, што гэта зусім не зьвяры. І Сьцяпан добра зразумеў, што гэта былі польскія разьведчыкі, або дазорцы.

„Ці не заўважалі яны мяне, гады?“

Карцела гэтае пытаньне і, як сумны хаўтурны звон, непакоіла душу яго... Увесь чалавечы розум Сьцяпана ўпарта працаваў над гэтым пытаньнем, хутка-хутка вырашаючы, што рабіць, куды кінуцца. Ён моцна сьціснуў у руках свайго вернага неразлучнага сябра—вінтоўку і чакаў, што будзе далей. Цяпер яна адна толькі можа заступіцца і пастаяць за яго. А аддавацца жывым у палон ён ніяк ня мог згадзіцца, бо там сьмерць і мукі.

І ў гэты момант у галаве Сьцяпана мімаволі ўспылі розныя моманты яго жыцьця: вёска, бацькаўскі дом, сябры і яшчэ шмат розных жывых абразоў... Але, што так яскрава ўрэзалася ў душу Сьцяпана,—гэта гэраічная сьмерць другой чырвонай роты з іх палка.

Гэта сьмерць, бязумоўна, варта таго, каб яе ўнесьці ў сьветлую старонку барацьбы за рэвалюцыю нашай чырвонай арміі.

Бой, што называецца, бурліў. Палякі лезьлі ўпарта, назойліва, як дзікія зьвяры, але агонь чырвоных, якія займалі важную пазіцыю, зьнішчаў шэрагі насядаўшага ворага. Тры гарматы займалі высокі узгорак за лесам і сваім неміласэрным агнём шмат дапамагалі сваім таварышом-чырвонаармейцам. Але к самаму важнаму моманту бою ўсе знарады выйшлі, і гарматы змоўклі. Палякі толькі гэтага й чакалі. Праз некалькі хвілін яны прарвалі ланцуг чырвоных, і другая рота была абкружана імі. З немымі крыкамі: „бі чырвоную сволач!“ кінуліся палякі на абкружаных чырвонаармейцаў, але град куль прыпыніў іх хуткі бег. Камандзір гэтай роты зразумеў сваё крытычнае становішча; ён падняўся з свайго акопу і, каб узьняць настрой сваіх таварышоў-чырвонаармейцаў, моцна закрычаў:

— Браткі, нас абкружылі, але здавацца нам нельга, бо наш абавязак бараніць сваю родную рэспубліку да канца! Пастаім-жа за яе так, як і стаялі да гэтага часу! А вы, агідныя найміты зладзеяў-паноў,—зьвярнуўся ён да польскіх салдатаў,—хочаце затапіць Савецкую краіну ў крыві працоўнага народу, але запомніце, зраднікі, ня вам панаваць над намі і трымаць у кайданох бунтарскі дух працоўных СССР!

У адказ на гэта з польскага боку трэснула некалькі стрэлаў.

Камандзір ціха сеў на сваё месца і ўзяўся за кулямёт. Зашапацеў нэрвова кулямёт, і кулі, як гарох, пасыпаліся з яго. Засакатаў каля лесу і другі кулямёт. То адступіўшыя чырвоныя стараліся дапамагчы сваім. Але было позна. Шчыльнымі грамадамі, бяз усякага парадку, лезьлі на чырвонаармейцаў польскія

легіянэры. Але яшчэ адна апошняя напорнасьць чырвонай роты,—і польскія грамады пасунуліся назад, увесь час пакідаючы груды цел.

Так цягнулася з поўгадзіны. Падыходзілі ўсё новыя і новыя сілы польскіх легіянэраў, але зараз-жа скошваліся або адступалі перад неміласэрным агнём абкружанай роты.

Нарэшце палякі знайшлі спосаб выбіць чырвоную роту з яе умацаваньня. Яны навялі на роту некалькі цяжкіх гаўбіц і пачалі страляць. Першы знарад разарваўся водаль ад іх, другі бухнуў бліжэй і, нарэшце, трэці папаў якраз у сярэдзіну роты, але не разарваўся. Камандзір роты зразумеў, што ўсё прапала, але заставацца ў акопах ён не хацеў, бо тут—бескарысная сьмерць ад знарадаў. Жадалася памерці ў пачэснай бойцы, паказаць адвагу, моц сваю. І яму прышло у голаў кінуцца ў рукапашную. Ён падняўся на ногі і галосна закамандаваў:

— Таварышы, у штыхі!

І, як адзін, паднялося чалавек 40 чырвонаармейцаў, якія засталіся жывымі. Нават цяжка ранены ў нагу комсамолец Пятрусь узяў вінтоўку і стаў у баявую позу.

— Разам з вамі, таварышы...—шапталі яго змучаныя вусны. Але ён тут-жа зваліўся, як сноп, і заплюшчыў вочы назаўсёды.

— За мной!—ізноў закамандаваў камандзір. І ўсе сорак чырвонаармейцаў, як адзін, кінуліся за ім.

— Гэй, здавайся, чырвоная сволач!!!

І грамады дзікіх зьвяроў-легіянэраў зноў накінуліся на сваю ахвяру. Завязалася ўпартая барацьба. І ня вытрымалі польскія легіянэры;—адступаць пачалі. Відаць, не маглі ўтрымацца яны, здраднікі, перад націскам чырвоных. Але тут падскочылі ўланы, і чырвоную роту палякам удалося перамагчы.

Вось гэта гэраічная смерць, так яскрава паўстаўшая ў ваччу Сьцяпана, ускалыхнула душу яго, наддала яму сілы, бадзёрасьці. І ён пачаў аглядацца больш сьмялей.

2

Сьцяпан зірнуў уперад. Вакол стаяла тая-ж самая васеньняя ноч, толькі месячык сумна пазіраў скрозь прасьвятлеўшыя сіты хмар, ды зорачкі рассыпаліся па небе, як дробненькія макавінкі.

Сьцяпан пачуў, што заставацца на гэтым месцы небясьпечна.

„А можа за мной сачаць?"—мільганула думка ў галаве Сьцяпана. І ён ціханька рушыў у правы бок борам каля паляны. Прапоўз крыху, лёг на зямлю, прыслухаўся, але нічога асаблівага ня было чуваць, толькі вецер гойсаў на зялёных шапках-верхавінах старых магутных хвой, сьвістаў і жаласна напяваў бору зялёнаму свае вольна-магутныя, жудасна-шалёныя бунтарскія песьні. Сьцяпан падняўся на ногі. Перад ім блiснула цёмна-сiняя істужка—бяроза.

„Вось гэта добра,"—падумаў Сьцяпан і прысеў за куст калючага ялоўцу, каб добра аглядзецца. Сьцяпан сядзеў на самым краі бору, на ўзгорку. Перад ім распасьціраўся стракатым дываном сялянскі луг, далей—бяроза, і водаль тракту, нібы воўчыя вочы, ледзь-ледзь прыкметна блішчалі агні, ды няясныя абрысы будынкаў віднеліся зусім непадалёку сярод чорных шнуроў-загонаў.



*Таварышы, у штыхі!*

— А, знайшоў такі...—ціха прамовіў Сьцяпан, і з гэтымі словамі ён пачаў спускацца з узгорку. Цераз хвіліну ён зусім спусьціўся і ціха папоўз лугам у кірунку вясковых будынкаў.

— Стой! хто тут?!—крыкнуў грозна польскі часавы.

У адзін міг усхапіўся Сьцяпан і хутка-хутка шмыгнуў назад у лес.

— Стой!—яшчэ грязьней крыкнуў часавы.

Але адказу ня было, і сухі стрэл разбудзіў мёртвую неспакойную ноч. Паўсхапліваліся сонныя легіянэры і схапіліся за аружжа. Некаторыя з іх ад вялікага перапалоху кінуліся наўцёкі—іх удалося стрымаць сваім уланам. Прыляцеў на кані старэйшы афіцэр і, даведаўшыся ў чым справа, злосна крыкнуў на сваіх салдат:

— Маўчаць, халопы! Шампалоў захацелі?! І ён пацягнуў бізуном са ўсёй сілы аднаго з іх. А потым, паклікаўшы нейкага гарбаносага афіцэра, загадаў:

— Абшукаць усюды! Марш!!!

— Слухаю! — адказаў той і адышоў к салдатам, што стаялі грамадой каля лесу. А цераз некалькі хвілін лес быў абкружан салдатамі, і дзікая пагоня гойсала па лесе. Гэта зрабілася так хутка, што Сьцяпан не пасьпеў нават яшчэ схавацца, як пачуў за сабой шум і трэск пагоні. Ён, як уюн, сьлізнуў пад карэньне вывернутай хвоі.

„А можа яны мяне ня бачаць?“ падумаў Сьцяпан. І толькі пасьпеў ён так падумаць, як на яго навалілася нешта цяжкае і здушыла горла і рукі. Моцна рвануўся Сьцяпан, павярнуўся тварам да незнаёмага і ўбачыў над сабой воўчую морду легіянэра. І закіпела сэрца Сьцяпана злосьцю непамернай, загарэлася кроў у жылах, і ён рвануўся, што было сілы. Зьляцеў зьнячэўку вораг, але падасьпеў на дапамогу яго таварыш, і паміж імі закіпела ня зусім роўная барацьба.

— Стой, халера, папаўся!—крыкнуў адзін з гэтых ворагаў. Барацьба паміж імі разгаралася. Некалькі часу яны, як каты, учапіўшыся адзін за другога, качаліся па зямлі, але, нарэшце, сілы Сьцяпана пачалі слабець, і ён пачуў, што, мусіць, прышоў яму канец. Тымчасам падбеглі іншыя салдаты.

— Так-так яго!—крыкнуў адзін з іх і кінуўся з вяроўкай на Сьцяпана. Яго зьвязалі ляжачага і моцнымі штыршкамі ў грудзі прымусілі падняцца з зямлі. Сьцяпан глянуў на тут-жа стаяўшых салдат, злосна плюнуў і з насьмешкай сказаў:

— Эх, салдаты, салдаты! Вы толькі, мусіць, і здатны па трыццаць чалавек нападаць на аднаго ляжачага ды курэй па вёсках лавіць, а не ваяваць!

Нічога не сказалі салдаты, толькі некаторыя з іх, засароміўшыся, адвярнуліся ў бок.

Падыйшоў гарбаносы афіцэр. Кінуў кароткі погляд на Сьцяпана і, бліскаючы зладзейскімі вачыма, прамовіў:

— А, бальшэвік, пся крэў твая! Давай свае паперы! Ты, мoжа, камісар які!?— І з гэтымі словамі ён пачаў вытрасаць ўсе кішэні Сьцяпана.

„Вось калі я прапаў“, падумаў Сьцяпан. Але раптам ледзь прыкметная ўсьмешка прабегла па яго твары, калі ён успомніў, што ўсе свае паперы ён пакінуў у зводнага яшчэ перад адыходам на разьведку.

Яго добра абшукалі, абгледзелі ўсяго, але, не знайшоўшы таго, чаго хацелі, адышліся ад Сьцяпана і чакалі загаду афіцэра.

— Адвесьці да комэнданта!—крыкнуў нездаволены афіцэр.

Хутка былі назначаны канвойныя, і Сьцяпан са зьвязанымі рукамі пусьціўся ў дарогу.

„Эх, і трудна ўцякаць цяпер!“ І Сьцяпан рашыў чакаць, што будзе далей.

Хутка ўвайшлі ў незнаёмую вёску. Забрахалі, заяхкалі моцна сабакі і хутка сьціхлі. Вёска спала моцным акамянелым, мёртвым сном, толькі пеўні перакрыкваліся між сабой, прарочачы блізкі прыход дня. На канцы вёскі стаяла школа, дзе яшчэ гарэў агонь. Тут быў комэндант. Канвойнікі прывялі сюды Сьцяпана.

— Палонны, загадана адвесьці да комэнданта...—прамовіў адзін з іх, здаючы Сьцяпана тром дзяжурным салдатам.

— Вось дык штука, ха-ха-ха...—прамовіў высокі комэндант, гледзячы на Сьцяпана.

— Ну, дык што-ж—адвядзеце яго, куды трэба, ды не забудзьцеся разьдзець яго, малойчыка!—сказаў ізноў спакойна комэндант, і схаваўся за дзьвярыма школы.

3

Абадраны з галавы да ног, ляжаў Сьцяпан у бруднай цёмнай каморцы, а на ім заставалася толькі адна бялізна.

І горкія нявясёлыя думкі кружылі ў галаве Сьцяпана пад нудны жаласны сьпеў ветру. Як жывыя, усплылі перад ім вобразы яго мінулага жыцьця...

Але што так у гэты момант расхвалявала Сьцяпана? Гэта ўспомніў ён пра сваіх маленькіх дзетак, якія засталіся адны, бяз бацькі і маткі, пры старой бабульцы. І буйныя сьлёзы навярнуліся на вачох Сьцяпана пры думцы аб сваіх бедных гаротных дзецях.

Бедныя дзеткі! Можа ў гэты момант, як іх бацька знаходзіцца ў лапах сьмерці, яны, ціхенька стуліўшыся ў куточку, слухалі цікавыя апавяданьні старой бабулі. А мо‘ яны адчувалі надыходзячае гора і, зьвесіўшы русыя галоўкі, горка, горка плакалі.



*Канвойнікі прывялі Сьцяпана...*

Ясна вырысоўвалася чорнавокая, стройная Зоська, яго жонка, зусім нядаўна зышоўшая ў магілу, і Сьцяпану яшчэ больш горка зрабілася на сэрцы.

„Бедныя дзеткі... родныя дзеткі...“— шаптаў ён раз-по-разу. Але, нарэшце, перамог свой жаль і цьвёрда сказаў:

— Я павінен уцячы! Гэта неабходна...

Сьцяпан глянуў праз шчыліну драўляных дзьвярэй, каб заўважыць, што робяць вартаўнікі. Сьвітала... Адзін з іх стаяў, стуліўшыся над старой вярбой, а другога зусім ня было відаць.

„Гэта добра“,—падумаў Сьцяпан. І думка аб магчымасьці яшчэ пажыць на сьвеце зноў завітала ў галаве Сьцяпана. Ён глянуў уверх. На столі віднелася нейкая белая пляма, якая мела форму вакна. Сьцяпан узьлез на палок і пераканаўся, што гэта новыя дзьверы. Ён стаў на палок, упёрся плячыма ў гэтыя дзьверцы і, што было сілы, цісkануў іх ўгору. Яны адляцелі, а на галаву Сьцяпану пасыпаўся пясок і адчыніўся ход на двор. Некалькі шпаркіх крокаў, і Сьцяпан выскачыў вон. Вартаўнік не варушыўся і стаяў, як слуп.

„Відаць, і табе, брат, ня соладка жывецца, калі заснуў на варце,“ — думаў Сьцяпан, гледзячы на яго. „Ну, бывай пакуль што“.

Сьцяпан пералез цераз плот, глянуў на сьпячага вартаўніка і падумаў: „Трэба было-б цябе таго... але няхай... мо‘ дзеці ёсьць... сіротамі застануцца. І, праканаўшыся, што другога вартаўніка няма, Сьцяпан кінуўся ў лес, што быў відаць зусім недалёка.

Вецер песьціў яго голыя грудзі, весела разгульваў у валасох і цалаваў яго змучаныя бледныя вусны.

Сьцяпан прыбег у альховы гай. Густа пераплеценыя галінкі прынялі яго ў свае абоймы і схавалі ад злосна-паганага варожага вока.

# ВАЛЕЙБОЛ.

*(Лятаючы мяч).*

**Пляцоўка для гульні.**

На зусім роўным месцы абвядзеце крэйдай альбо шырокай рыскай межы пляцоўкі, разьмерамі 12 на 6 мэтраў (18 на 9 шагоў). Пры большай колькасьці гульцоў разьмеры поля можна павялічыць да 18×9 м.

Упоперак пляцоўкі, пасярэдзіне, правядзеце такую-ж рыску і ўкапайце ў зямлю па канцох яе рыскі па аднэй высокай палцы.

Палкі на вышыні 2-х мэтраў злучэце туга нацягнутай вяроўкай, каб яна не абвісала. Яшчэ лепш, калі замест вяроўкі вы зможаце дастаць хаця-б вузкую сетку з простым вязаньнем.

За правымі кутамі пляцоўкі, калі стаць тварам да сеткі, зрабеце па аднаму квадрату, каб кожны бок яго быў роўны 1 мэтру (1½ шага).

Уважліва паглядзеце, каб на пляцоўцы ня было каменьняў, выбоін, ямак.

**Прылады.**

Самае лепшае, калі вы зможаце дастаць спэцыяльны валейбольны мяч з гумовай камэрай і тонкай шкуравой накрыўкай, вагой каля ½ фунта і ўпапярок каля 20 см. (дыямэтр). Калі няма такога мяча, можна зрабіць самую тонкую накрыўку з матэрыі і ў сярэдзіну набіць ня туга вельмі лёгкага матар'ялу—пуху, трошкі воўны, валасоў. Такі самадзельны мяч ня будзе падскакваць, але ў гульні гэта і не патрэбна, затое будзе лёгкі.



**Разьбіўка на каманды і ход гульні.**

Усе ўдзельнікі гульні дзеляцца на дзьве роўныя каманды. Звычайна ў кожнай камандзе бывае па 8 гульцоў. Вырашаецца жрэб'ямі, якой камандзе выбіраць горад і пачынаць гульню.

У кожнай камандзе выбіраецца капітан.

Капітаны расстаўляюць гульцоў на сваіх палавінах пляцоўкі (гарадох) так, каб усюды былі забаронцы.

Назначаны капітанам пачынаючы гулец становіцца ў квадрат у свайго поля.

Атрымоўваецца такі малюнак разьмяшчэньня гульцоў (гл. мал.).

Вылучаны раней судзьдзя дае сьвісток, і гулец, падкінуўшы нявысока мяч, б'е па ім зьнізу праваю рукой (падае) так, каб мяч пераляцеў над вяроўкай на пляцоўку праціўніка. Пасьля гэтага гулец адразу-ж ідзе на сваю пляцоўку.

Праціўнікі, бачачы набліжаючыся мяч, стараюцца адбіць яго *далонямі* назад цераз вяроўку на пляцоўку пачынаючай партыі. Тая, у сваю чаргу, адбівае мяч к праціўніку і г. д.

Вось і ўвесь ход гульні.

Але тут ёсьць цэлы шэраг умоў, невыкананьне якіх лічыцца за наказаньне—пройгрыш аднаго ачка.

Штрафное ачко залічваецца:

1. Калі мяч праляціць пад вяроўкай альбо кінецца за межы пляцоўкі праціўніка (аут); 2) калі каманда дапусьціць, каб мяч кінуўся на зямлю ў межах яе пляцоўкі; 3) калі перад пералётам мяча на пляцоўку праціўнікаў да яго будзе датыкацца больш трох гульцоў адзін за другім; адзін і той-жа гулец ня мае права біць па мячу два разы пад рад; 4) калі мяч будзе адбіты нагою; 5) калі гулец у часе гульні перанясе руку і нагу на пляцоўку праціўніка альбо дакранецца вяроўкі;

6) калі мяч ня быў адбіты далоньню адразу, а быў злоўлен альбо адбіты кулаком.

*Увага.* Партыя, якая падае мяч, за ўсе памылкі не атрымоўвае штрафу; але яна губляе перадачу, г. з. мяч перадаецца для новай падачы праціўнікам. Акрамя таго, губляецца падача яшчэ ў наступных выпадках: 1) калі мяч стукнецца ў вяроўку (сетку); 2) калі гулец падаючы мяч, яшчэ да пералёта кінутага ім мяча цераз вяроўку, выдзе з квадрата альбо наступіць на рыску.

Судзьдзя стаіць з боку пляцоўкі (лепш на ўзвышшы) і дае сьвісток пасьля кожнага нарушэньня ўмоў, абвяшчаючы гучна лік, прычым першая лічба адносіцца да каманды падаючай (пачынаючай).

Калі падаючая каманда толькі што выграла ачко, маючы да сяго часу выграных 10, а праціўнікі мелі выграных 6, то судзьдзя голасна гаворыць:

— „дзесяць—шэсьць“—

Калі гэта падаючая партыя зараз прайграла, то мяч перадаецца праціўнікам, а судзьдзя абвяшчае — „шэсьць—дзесяць“. У дапамогу судзьдзю добра было-б мець асобнага счоччыка.

Гульня працягваецца да 15 выграных ачок. Тая каманда, якая набярэ гэтыя 15 ачок раней, лічыцца выграўшай.

Бывае так, што абедзьве каманды маюць па 14 ачок, тады гульня ідзе да 16 ачок і г. д.



Адсюль відаць, што ў канчатковым выніку розьніца ў ачкох паміж выграўшымі і прайграўшымі павінна раўняцца двум.

Пасьля гэтага каманды мяняюцца пляцоўкамі і гульня пачынаецца зноў, пры чым падаюць ня тыя, якія падавалі ў пачатку першай партыі.

Калі другую партыю зноў выграе тая-ж самая каманда, то яна лічыцца перамогшай і агульны вынік атрымоўваецца 2—0 у яе карысьць. Калі-ж другую партыю выграе праціўнік, то вынік атрымоўваецца 1—1 (нічыя) і гуляюць рашучую.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# У нас так...

## Дапаможам барацьбітом.

*(м. Ляды, Аршаншчына).*

Наш атрад імя т. Бухарына за апошні час праводзіць надта добра працу. На адным з агульных сходаў павадыр растлумачыў нам пра МОПР. Піонэры з вялікай увагай аднесьліся да гэтае справы. Амаль што кожны піонэр уступіў у ячэйку МОПР. Таксама ўсе піонэры ўнесьлі інтэрнацыянальную капейку ў дапамогу заходнім братом. **Алесь Ландарскі.**

## Дапамаглі сябру.

У нас быў такі выпадак.

Тав. Чысьцякоў застаўся сіратою, калі яму было 3 гады. Папаў ён з вёскі ў м-чка Хоцімск.

Вучні, бачачы, што іх брат бадзяецца бяз прытулку і ня вучыцца, парашылі дапамагчы яму. Самакіраваньне Хоцімскай 7-мігодкі парашыла сабраць з вучняў і піонэраў грашовую дапамогу свайму сябру. Піонэры і вучні адгукнуліся на гэта. Пачалі зьбіраць грошы і сабралі больш за 10 рублёў. Раённы АНА таксама адпусьціла яму па 5 рублёў у месяц.

За гэтыя грошы ён купіў сабе адзеньне. Таксама ёсьць чым і харчавацца.

**Я. Бярозкін.**

## Не дачакацца адказу.

Паслалі мы ліст у Койданаўскі атрад імя Лепсэ, каб наладзіць з імі сувязь, а яны нават не паклапаціліся даць адказу, не ўспамінаючы ўжо аб сувязі. Чакалі, чакалі, не дачакаліся адказу. Паслалі другі раз у горад Менск, у 1-шы атрад пры саюзе Будаўнікоў. І што-ж? На першы ліст далі адказ, а на другое—забыліся.

Дрэнны прыклад дае атрад імя Лепсэ і гарадзкі атрад пры саюзе Будаўнікоў.

**Лісоўскі.**

(Вільшчына, ШСМ. Меншчына).

# Наша будаўніцтва



*У нас будуюцца новыя заводы.*

Вельмі шкода, што нашы чытачы ня бачылі Кастрычніка, вельмі нямногім памятна грамадзянская вайна. Дзеці будучага таксама пашкадуюць, што ня жылі ў нашы часы. Перад нашымі вачыма зараз праходзіць вялікая стройка. Яе мы бачым кожны дзень, кожны час.

Пранёсься над Савецкай краінай гураган грамадзянскай вайны. Рабочых і сялян рабавалі капіталістыя Нямеччыны і панскай Польшчы. Вайна пакінула нам разбураныя фабрыкі, спаленыя вёскі, разваленыя дарогі, масты, цягнікі. Спытайцеся ў сваіх бацькоў, як ім прыходзілася ехаць па чыгункам, як яны на дарозе вылазілі з цяплушкі і дапамагалі паравозу рухацца напёрад. Колькі тапілася сялянскіх коняй у рэчках, балотах толькі таму, што былі папалены масты?!

Не хапала тавараў, хлеба. Колькі стаяла фабрык, пуставала незасеяных дзесяцін?! Лепшыя прадстаўнікі рабочых і сялян былі адарваны ад працы, яны змагаліся за новае жыцьцё. Дваццаты год прынёс нам вызваленьне.



*Марыінскі канал; перасякае больш 10 клм. балот у Бабруйшчыне.*

Мы пачынаем жыць мірна. За апошнія гады наша краіна пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі аднавіла ўсю народную гаспадарку да даваеннага ўзроўню. Зараз мы шагаем наперад, наперад!

Мы ня толькі аднавілі гаспадарку; шмат дзе зроблена лепш, чым было.

У нас ня толькі пушчаны старыя фабрыкі, заводы, заменены старыя машыны новымі. Многія заводы пабудаваны сіламі рабочых і сялян.

У Беларусі будуецца Асінстрой. Дзе вякамі сьляпілі вочы над сьвятлом лучыны, лямпы,—там хутка загарыцца электрычная лямпачка. Электрычнасьць з Асінстрою пабяжыць па дроту да Воршы, Магілеву, Віцебску і закруціць колы фабрычных і заводзкіх машын. Намечана пабудова некалькіх новых заводаў у гэтым раёне.

У нас маюцца вялікія абшары балот. Калі раней на гэтых балотах не магла ступаць чалавечая нага, дык зараз на іх квітнеюць сялянскія нівы. Мы здолелі частку балот асушыць. Наш селянін раней нават і ня чуў аб трактары. Ён не ўяўляў, што сталёвага каня можна пусьціць на сялянскіх загонах. Зараз трактар сьмела і шпарка ідзе па сялянскіх палёх, разразаючы дзірваны.

Перад намі многа яшчэ няздробленага. Новымі машынамі, упартай працай мы будзем пракладаць шлях да соцыялізму!



*Проэкт будучай электрычнай станцыі Асінстрой.*

## Успаміны аб польскім панаваньні.

Перад мною яскрава ўстае малюнак першай польскай разьведкі, якая віхрам урэзалася ў мястэчка Койданава. Злавіўшы комуністага, разьведка прывязала яго рукамі да сваіх сёдлаў і, памахваючы голымі шаблямі, неслася маланкай па вуліцах. Комуністы, страціўшы сілы, цягнуўся па зямлі няпрытомным, а палякі ўвесь час секлі яго бізунамі.

Гэтак уваходзілі палякі ў нашае мястэчка. За час свайго панаваньня насельніцтва цярпела страшэнныя зьдзекі. Старым яўрэям палякі абстрыгалі бароды, аблівалі халоднай вадой і загадвалі плаціць за гэткую работу. У сялян забіралі скаціну, рабавалі маемасьць.

Перад сваім адыходам мястэчка было зруйнавана, спалена, жыхары бязьлітасна зьбіты.

**Азярыцкі Абраша.**

## Белапалякі-пагромшчыкі ў Барысаве.

Аднойчы ўночы, калі ўсе ўжо спалі, здалёку пачуліся стрэлы. Гэта наступалі палякі. Каб заняць горад, палякам трэба было перайсьці масты над ракой Бярэзінай.

Бальшавікі не адступалі. Дзякуючы гэтаму, тры дні лятали польскія знарады над горадам, шмат іх разрывалася і ў горадзе. Людзі пахаваліся, хто мог, у склепах. Многа-ж было і забіта.

Уварваўшыся ў горад, яны сталі паліць будынкі і ўчыняць расправу... Сустрэўшы старога яўрэя, яны адстрыгалі яму бараду. У сялян адбіралі хлеб і г. д.

Усе рабочыя і сяляне з нецярпліваісьцю чакалі свайго збаўленьня. І калі цераз 9 месяцаў зноў прышлі бальшавікі, працоўныя Барысава сустрэлі іх з радасьцю.

Дзяткоры: **Майсей і Саламон Гурэвіч.**

# К НАПАЛЕОНУ Ў ГОСЬЦІ.

У мінулым годзе Ляхаўскія піонэры (г. Менску) утварылі групу турыстых. Гэта група наладзіла масавую экскурсію ў г. Барысаў з мэтай азнаёміцца з ваколіцай Барысаўшчыны і з самім горадам (фабрыкамі, працай піонэраў ды інш.). Наколькі цікава, весела і карысна была такая экскурсія сьведчыць падрабязная запісь у дзеньніку турыстых. З гэтага дзеньніку мы перадаем занатоўкі, зробленыя толькі за адзін дзень. Дзеньнік на гэты раз вёў вучань *Меерові́ч Меер*.

Я прахапіўся роўна ў 6 г. раніцы. Разбудзіў мяне моцны ўдар мячыка. Гэта ўзгробся ўжо мой таварыш па школе і пачаў мячыкам будзіць нас, моцна заліваючыся рогатам сам.

На барысаўскіх вуліцах яшчэ цішыня. Сяды-тады т о л ь к і прагрукаюць калёсы ды пракрычыць гандлярка: „Булкі сьвежыя, булкі“.

Але мала каму хочацца разьдзіраць сонны рот у гэты час радзі яе сьвежых булак.

Барысаў яшчэ сьпіць.

Турысты нашы ўстаюць, мыюцца, займаюцца фізкультурай. Як і раней, сьмех, жарты. Асабліва дапякаюць жартамі Афіцэрава (прозьвішча аднаго з удзельнікаў). Кожны лічыць патрэбным пахваліць яго сьмехам „прыкладам, ручное пячаткі к яго сьпіне“. Зразумела, б'юцца не балюча, а так, заместа „націраньняў“.

Афіцэраву перабралі ўжо ўсе старыя чыны: і прапаршчыкам, і фэтфэбэлем і палкоўнікам яго абзывалі.

А калі толькі раскатурхаліся, прыбраліся—падаюць сьнеданьне.

Тут бязумоўна справа вырашаецца і без галасаваньня: усе—за зьнішчэньне сьнеданьня. Ніводнага супроць.

Але тут-жа зноў не абыходзіцца без Афіцэрава. Справа ў тым, што ён зьядае адзін за некалькі чалавек.

І вось кожны стараецца ўчаставаць рэштками сваёй порцыі Афіцэрава.

На сёнешні дзень па нашаму пляну мы накіроўваемся к „Напалеону ў госьці“. (Не падумайце, што мы зьбіраемся ў Францыю ці на востраў Эльбу). Дружна пастроіліся і рушылі ў дарогу ўсім атрадам. Горда вышлі на шырокія ціхія палі, балоты, лясы.

Мясцовасьць самая цікавая. Вось прамільгнула перад вачыма невялікая горка, вось луг, там гаёк, здалёк чарнеецца лес.

Піонэры і тут не абыходзяцца без вясёлых жартаў.

— Глядзеце, глядзеце, сябры, вунь Монблян!— паказвае мой таварыш на самую бульшую горку ў гэтай мясьціне.

— А вунь тропічны, вечна зялёны гай! А там вунь Волга—Донскі канал,—крычыць адзін, паказваючы на канаўку пры ляску.

Уваходзім у лес. Крык ня сьціхае. І розныя водгукі рэха адклікаюцца на крык дзяцей. З аднаго боку чуваць—„та—та“. Гэта на крык „рабята“, з другога „гэ—ры“ і г. д.

Вясеньня прырода сама-што ўбіраецца ў сваю красу. Усё ажывілася, зазелянела. Сонца не шкадуе свайго жывіцельнага цяпла. Сярод такой прыгожасьці прыроды адчуваеш сябе радасным і бадзёрым. Піонэры спыняюцца часта і падоўгу любуюцца якім-небудзь новым відам. Часта пападаюцца ўзгоркі, з якіх асабліва прыемна наглядаць за ваколіцай: за цёмным лесам, што зубчатым краем зьліваецца з сіня-бялявым небам, за шырынёй палёў, за першымі ўсходамі ярыны...

У лесе асабліва адчуваеш сябе добра. Па заяве нашага самароднага профэсара Левіна ў лесе ня менш 60 проц. тлену.

Гэта заява сустракаецца дружна ўсімі, і ўсе жартаўліва пачынаюць выкарыстоўваць лясное паветра. Пачынаюць сапці, храпці, смаркацца... Адным словам, хапаюць сьвежае перапоўненае „тленам“ паветра.

Амаль усюды яшчэ захаваліся сьляды акопаў. Гэта мясьціна, па якой мы ідзем к Напалеону ў госьці, важны пункт для наступленьня на горад. Вось чаму тут і пабывалі войскі і Напалеона (у 1812 г.), і палякаў, якія адгэтуль з гармат узьнімалі ў паветра з дымам і пажарам цэлы горад.

Нарэшце перад намі паказаўся невялічкі домік.

— Хвілінку цярпеньня і мы—у самога Напалеона!—пацяшае нас „профэсар" Левін.

—Я прапаную абраць перакладчыкаў! Як-жа мы будзем у іншым выпадку гутарыць з Напалеонам?—жартуюць некаторыя.

З напалеонаўскага доміка выслалі к нам свайго чалавека.

— Гэта для перамоваў!—заўважыў тойжа Левін.

Але гэты чалавек расказаў нам маленькую гісторыю мясцовасьці і доміка.

— Тут,—пачаў ён,—калісьці стаялі напалеонаўскія войскі. Сам Напалеон быў тут. У гэтых мясцох адбываліся бойкі.

І шмат чаго яшчэ нагаварыў нам той „напалеонаўскі", як празваў яго Левін, чалавек.

Але гэта ўсё справы „даўно мінулых дзён". Цяпер-бы Напалеон не пазнаў свае канюшні. Заместа канюшні тут сельска-гаспадарчы тэхнікум, які мае ў сябе да 500 дзес. зямлі.

З цікавасьцю знаёмімся з тэхнікумам. У ім вучыцца 80 чалавек,—большасьць вучняў з сялян.

Бегаем па калідорах, клясах. У аднэй клясе наладжваецца настаяшчая лекцыя. Усе садзяцца. Ціха. Наперадзе Левін. Ён прымае важную позу і пачынае... Цішыня раптам прарываецца аглушаючым раскацістым сьмехам.

Аглядаем адзін за адным габінэты. Усюды сыплюцца пытаньні, пачынаюцца амаль ня лекцыі, што і да чаго. З фізычнага габінэту пападаем у птушынае аддзяленьне. Тут нязьлічоная маса самых рознастайных пярнатых экспанатаў. Усе, усе, што водзяцца ў Беларусі, сабраны тут. Доўга ня могуць піонэры адарвацца ад гэтага цікавага птушынага царства. Пачынаюцца розныя спрэчкі, выхваляньні, што адзін знае і бачыў больш птушак за другога.

Добра азнаёміўшыся з усімі багацьцямі і асаблівасьцямі школы, вываліваемся на школьны двор. Пры ўспамінах аб войсках, у хлапцоў падымаецца „вайсковы настрой". Пачынаецца француская барацьба, штурханьні, а пасьля і настаяшчыя войны... Вылучаюцца партыі. Наступаем і адступаем з крыкамі, сьмехам, жартамі...

Нарэшце, калі стаміліся, зьбіраемся і накіроўваемся ў самы напалеонаўскі дом—цэнтр нашай экскурсіі.

Гэта даволі няпрытульная, аднапавярховая будыніна. У сярэдзіне гэтай будыніны цяпер наладжана хімічная лябараторыя тэхнікуму.

Амаль ня цэлы дзень забавіліся мы, аглядаючы тэхнікум і знаёмячыся з яго працай.

Назад у горад пашлі другой дарогаю. Па шляху неўзабаве трапілася настаяшчая барысаўская пустыня: гэта вялізарны кавалак зямлі, усыпаны ўвесь кварцавым дробным пяском, пясок гэтак нагрэўся ад сонца, што нельга было басаנож ступаць па ім.

У інтэрнат мы прышлі ў 5 г. вечара. Усе былі зморany, але настрой адчуваўся самы бадзёры. Сьвежыя ўражаньні ад паходу



*У поле, у лес, на сьвежае паветра!*



*Пачынаецца французская барацьба...*

надавалі энэргіі і адганялі ўсялякую стомленасьць.

За абедам тая-ж гісторыя, што і рана. Усе лішнія катлеты накіроўваем „сьпешнай поштай“ Афіцэраву. Ён, праўда, не супярэчыць лішняму кавалку. „Гэта табе ня хунт ізюму, а цэлая катлета“—прыгаварвае ён, уплятаючы адну за другой катлеты.

У інтэрнаце пачынаецца самая цікавая частка. Хто што ўмее і можа—лжэ у гэты час.

— Ціха, таварышы! Увага! Найцікавейшы факт раскажу з Барысаўскага быту.

Усе сьціхаюць. Гэта крычыць Левін. Яго паслухаць шмат хто рад.

— Іду гэта я сёньня па вуліцы, ляціць мотоцыклісты, ды так ляціць, як жук паўзе.

Усе рассыпаюцца здаровым сьмехам.

— Дык вось, ляціць гэта мотоцыклісты. А тут па вуліцах кароў, сьвіней—не пералічыць. Пад мотоцыклістага падбягае чарада дзяцей. Схапілі гэта адзін за кола, другі за руль і—стой машына!

Саскочыў мотоцыклісты, прагнаў дзяцей, пагразіў ім кулаком і пхнецца далей... Не спадабаўся ён адной карове. Падышла яна ды ў бок ездаку.

— Ха-ха-ха! Гэта зусім першую чыгунку нагадвае з карціны „Наша гасьціннасьць“, — перапыняецца апавядальнік фантастычнае прыгоды з мотоцыклістым.

Пасьля вячэры яшчэ доўга ня могуць угаманіцца піонэры. Толькі пасьля поўначы адзін за другім адыходзяць ва ўладу сну. Памяшканьне зусім сьціхае. Усе засыпаюць здаволеныя мінуўшым днём і добра праведзенай экскурсіяй.

## Наш першы выхад.

Вёска Холбні знаходзіцца на адлегласьці 5 вёрст ад м. Лядаў. Пашлі мы туды. Паслалі некалькі піонэраў уперад, каб яны сказалі аб нашым прыходзе.

Хутка падыходзім бліжэй. Чуем каманду. Гэта ідуць піонэры вёскі Холбні сустракаць піонэраў Лядняншчыны.

Прышлі мы з імі ў Холбні.

— Адпачынак, таварышы! — крыкнуў павадыр... Адбываецца агульны сход піонэраў. Маленькая гутарка.

Пасьля дакладу была масавая гульня, „Белыя і Чырвоныя“.

Калі ўжо стала зусім цёмна, нам сказалі, што пара ісьці ў двор.

— Пачакайце, мы яшчэ спэктакль наладзім,—кажуць вясковыя піонэры.

— Добра, адгукнуліся астатнія піонэры, даеш спэктакль!

Сабралася поўны нардом людзей. Спэктакль закончыўся позна ўвечары.

Гэта быў наш першы выхад ў вёску.

**Файтлін Файва.**



# ОРГАНІЗУЙЦЕ ДРУЖЫНЫ „ЮНЫХ ПАЖАРНІКАУ“.

У летні час досыць аднэй іскры, каб зрабіць цэлы пажар. А ў нас, як на тое, пажары здараюцца вельмі часта, асабліва ў вёсцы. Там глеба для пажараў добрая: кругом салома, сена, сухое дрэва.

Ад неасьцярожнасьці з агнём за некалькі гадзін іншы раз выгарае цэлая вёска.

У вёсцы вельмі часта дзеці гуляюць з запалкамі. Нярэдка гэтая гульня даводзіць да таго, што згараюць цэлыя вёскі.

Часам выгараюць цэлыя кварталы лясоў таму, што пастушкі, пасучы кароў, разлажылі ў лесе агонь і не паклапаціліся, адыходзячы, затушыць яго. У другі раз дзеці знарок падпальваюць, каб потым „палюбавацца“ агнём.

Ад такіх неасьцярожнасьцяй шмат траціцца народнага багацьця.

Піонэрорганізацыя павінна ўзяць на сябе некаторыя абавязкі па барацьбе з пажарамі.

У многіх атрадах гэта работа праводзіцца. Вось аб чым гаворыць адна карэспандэнцыя:

„Пры сьвяткаваньні 5-ай гадавіны нашай пажарнай дружыны ў мястэчку з‘арганізавалася Юная Пажарная Дружына.

Узімку наша Юная Дружына праходзіць тэорытычныя заняткі, як тушыць пажары і як сьцерагчыся ад іх і г. д.

А ўлетку, разам з старэйшымі пажарнікамі, гэта ўсё праходзіцца практычна, пры пажарных рэпэтыцыях і пры здарэньні пажару.

Кожны вечар да 11 гадзін піонэры—Юныя Дружыньнікі будуць сумесна са старэйшымі пажарнікамі сьцерагчы мястэчка ад небясьпекі пажару“.

(Піонэр **Фрыдман М. м. Любань**).

А вось піша піонэр **Файтлін Ф. з м. Лядаў:**

„Некалькі месяцаў таму назад ў нашым мястэчку здарыўся пажар. Піонэры і школьнікі ў ліквідаваньні яго прымалі актыўны ўдзел.

Як толькі пачаўся пажар, нашыя піонэры прыбеглі і ў першую чаргу пачалі выносіць з хат розныя хатнія рэчы. Потым дапамагалі пампаваць ваду“.

З гэтых допісаў відаць, што піонэры прымаюць удзел, яны дапамагаюць дарослым у зьнішчэньні пажараў. А піонэры мястэчка Любані вынайшлі і цікавую форму гэтай работы—гэта „Юныя Дружыны“.

Такія дружыны могуць організоўвацца і ў іншых этрадах там, дзе маюцца пажарныя дружыны дарослых. „Юныя Дружыньнікі“ працуюць пад іх кіраўніцтвам. У дружыны могуць уваходзіць найбольш дарослыя піонэры і неорганізаваныя, 13—15 гадоў.

Для лепшай працы, дружына падзяляецца на атрад: сыгналістаў, вадавозаў, ратаваньня жывёлы.

**Атрад сыгналістаў** паведамляе насельніцтва аб пажары, зьбірае людзей, якія могуць дапамагчы, дапамагае зьбіраць крукі, вёдры і г. д.

**Атрад вадавозаў**, які аб‘ядлнае найбольшы лік дзяцей, клапоціцца аб падвозе вады. Частка дзяцей падвозіць бочку, другія наліваюць у іх ваду. Астатнія організуюць з дзяцей і дарослых ланцуг і перадаюць па ім вёдры з вадою да месца пажару.

**Атрад ахраньнікаў** павінен ахоўваць маемасьць, якая выратоўваецца ад пажару, і не даваць яе расьцягваць.

**Атрад ратаваньня жывёлы** выганяе з хлявоў і панадворкаў жывёлу і не дае ёй разьбегчыся.

Так, прыкладна, працуюць дзіцячыя дабраахвотныя пажарныя дружыны.

Кожная дабраахвотная дружына можа знайці для сябе вялікую работу па барацьбе з пажарамі.



# Пальчык

*Апавяданьне* **Крапівы**.

*Малюнкі* **Тараса**.

— Жэнька! Уставай, дачушка,— будзіць маці.—Што гэта ты сабе думаеш? Вунь Петрык даўно ўжо ўстаў, сьнедае. Уставай, пазабаўляй яго трохі.

І сапраўды—Петрык ужо ўстаў. Ён сядзіць у калысцы, прывязаны поясам за вяровачкі. У руках у яго вялікая галка камякоў (бульбяной кашы). Ён ужо іх сам пад'еў і нос накарміў, пачапляў на шчокі і на мяккі лён—рэдкія сьветлыя валосікі. Мухі старанна ўвіхаюцца каля яго і рады, што Петрык ня вельмі цярэбіцца. А таму, па праўдзе кажучы, і часу няма: вачаняты яго пільна ўтаропіліся ў вакно. Там час-ад-часу паказваюцца круглыя вушы, а потым рогі, а то і ўся каровіна галава і плыве павольна паўз вакно. Петрык рад,—ладкі плешча і крычыць:

— Мама, му!

Але вось часам галава прыпыніцца, у шыбу ўпрэцца вільготная наздратая пыса і зашуміць моцна, нюхнуўшы паветра. Тады ўжо страшна Петрыку—ён зажмурвае вочы, закрываецца ручкаю і крычыць на ўсю хату тоненькім прарэзьлівым галаском.

А Жэнька чуе, што Петрык пішчыць, і чуе, што каровы рыкаюць. І вярзецца ёй, што Петрык сядзіць на бярвеньнях пад хлявом. Да яго ідзе Струкавых Падласка, рогі наставіла і галаву ўвагнула, убароць хоча. Петрык крычыць і ножкамі трапеча, а Падласка ўсё бліжай ды бліжай, і ўжо адзін рог яе ўпёрся ў Петрыкаў жывоцік. Жэнька і сама хоча крыкнуць, каб адагнаць Падласку, але ня можа: праз горла дух праходзіць, як праз дзірку ў капшуку, а голасу няма; яна хоча падбегчы ды выцяць Падласку дубцом, але ногі ня слухаюць, і нават ня чуецца яна—ёсьць у яе ногі ці няма. Але вось Петрык абхапіў карову ручкамі за шыю, а карова пацалавала яго, Петрыка, у лобік і прыгарнула да сябе. Глядзіць Жэнька—адно-ж гэта не карова, а іх мама. Вось яна расьце, расьце аж пад стрэху, потым аж пад вілачкі на страсе, а потым аж пад неба, і тады ўсё зьнікае.

— Ды ўстань-жа ты, Жэнька. Вось успалася!

Яна чуе мамчын голас.

— Устаю. Ужо ўстала, ужо,— мармыча яна праз сон, а вачэй ніяк не расплюшчыць. Галаву ахутаў туман і прыціснуў да падушкі. Вось ён зноў закрыў усё. А мухі ля яе старацца—роем гудуць, лезуць у нос, казычуць за павекі, залазяць у куткі губ.

— Уставай, ідзі авечкі выгань, а то пастух перагоніць.

Узабралася сяк-так, працерла вочы.

Выганяць авечкі—гэта яе штодзенны абавязак: тут ужо нічога ня зробіш, трэба ўставаць.

Глянула з замілаваньнем на сваю ляльку—Ганульку, якая спала побач з ёю, абцягнула на ёй сукенку, што сама шыла, і прыкрыла хусьцінкаю—„сьпі, сьпі, малая“. Паглядзела пасьля і пагладзіла кацянятак, якія ляжалі ў рэшаце на прымурку і над якімі яна пpыняла шэфства яшчэ тыдзень таму назад, як толькі нарадзіліся; выцерла Петрыку носік, які ўжо аж у губу ўпёрся, і пайшла выганяць авечкі.

Пакуль яна сёе ды тое, тое ды гэта,—Ганульку да толку прывяла ды сама ўмылася, дык маці ўжо і печ засланіла.

— Ну, слухай,—кажа,—што я табе буду казаць. Бацька пайшоў касіць і будзе да вечара. Я пайду жаць на падгор'е і таксама да вечара буду. Дык ты глядзі, каб хто ў хату ня ўлез ды не пакраў чаго—не пакідай адамкнёнай. Есьці будзеш камякі ў печы, а малако кіслае ў шафе на другой паліцы. Петрыку малако на прыпечку ў гарнушку. Удзень парсючку піць занясеш—пад лаваю ў чыгуне стаіць. Ды сьвіньням бульбяніку назьбірай—Петрыка пасадзіш ды цацак дасі, дык ён і пагуляе, пакуль ты. Глядзі, Петрыка не пакідай аднаго, а то коні стопчуць, бягучы з выгану. .

— А ты-ж мне васількоў прынясеш? Прынясі, мамачка! Сіненькіх-сіненькіх. Я спляту Ганульцы сваёй вяночак. Яна ўжо вялікая ў мяне, жаніцца будзе, дык ёй вяночак трэба.

Жэньцы таксама хочацца на поле жаць ды васількі рваць. Але яна яшчэ ня ўмее жаць,—раз прабавала, дый палец абрэзала — яшчэ знак ёсьць. Дый дома трэба быць—парсючку піць занесьці. Бо калі парсючок галодны будзе, дык і сала не нарасьце, і скваркі ня будзе. А ня хочацца дома адной быць. Дзень доўгі-доўгі. Чакай, пакуль сонца стане над дзядзькавым хлявом, потым над Марылінаю хатаю, потым зробіцца чырвонае, вялікае-вялікае, як рэшата, і спусьціцца нізенька, што качаргою можна дастаць. Потым стане хавацца вунь за той лясок. І, як будзе ўжо толькі трошкі беражок відаць, тады аж мама прыдзе. А Петрык нягодны такі — ня хоча гуляць з



*Каля яго стаяла чорная сьвіньня.*



*У дзіцячым садзе. Дзеці слухаюць гутарку кіраўніка.*

—А мы сёньня халаднік елі—ага! З цыбуляю ды з агулкамі. Смачны, смачны, — пахваліў Сьцёпка.

А ў нас цялусацка маленькая ёсьць, а ў вас няма — ага! — пахваліўся ў сваю чаргу Юзік.

А наш хлеў новы, а ваш сталы.

— А мой тата—член, а твой не—ага!

цацкамі, а ўсё плача ды на рукі лезе. А насіць яго доўга, дык і рукі млеюць, і сьпіна баліць, бо ён цяжкі, як гляк.

Пад'ела сьпяшаючыся — Петрык не даваў. Яму ўжо даўно абрыдла сядзець прывязанаму. Сьцерла стол, узяла ляльку Ганульку і вышла з Петрыкам на руках на вуліцу. Пуста на вуліцы, нікога няма, толькі Міхасёва сьвіньня рабая ляжыць сярод вуліцы. Выцягнулася пад сонца, а каля яе парасят з дзесяцёра мітусяцца. Коўзаюцца па ёй, куцаюць, а яна толькі ляжыць ды стогне з вялікай прыемнасьці. Петрык рад—ручкамі махае і пішчыць ад радасьці. Ён і сам-бы ахвотна пакуцаўся разам з парасятамі, каб яго пусьцілі. А Жэньцы маркотна адной. Пайшла, глянула ў Алесіных пад вакно—няма нікога, дзеці недзе пайшлі. Толькі калі яна схадзіла ў гарод, назьбірала зеляніва і прышла зноў на вуліцу, дык тут ужо былі Аўдоля і Юзік Алесіных, Настулька Трацякова ды Сьцёпка Ўласавых.

— Вот-жа! Дык і мой будзе некалі. Але каля нас капелацыў блізка, а ад вас далёка.

— А ў нас дзед ёсьць, а ў вас няма, а ў вас толькі баба. Дзед-за лепс, як баба.

— А ў нас... а ў нас сабака лабы, а ваш чолны, ага! Лабы-ж халошы, а чолны гадкі.

— А ў нас... а ў нас... а ў нас... Аўдолька, гадасьць нейкая, сказы, сто ў нас, а то я ня ведаю,—з а х н ы к а ў Юзік.

— А наш сабака ды вашага задушыць,—сказала Аўдоля, заступаючыся за брата.—Як схопіць за горла ды—гар-гар-гар-гар! дык вашаму і капут.

Цяпер ужо Сьцёпка стаяў насупіўшыся і стаяў, ня ведаючы, чым яму дапячы Аўдолі і Юзіку.

— А мой тата касіць пайшоў,—кажа ён нарэшце.

— І мой тата пайшоў, і дзядзька пайшоў, — сказала Настулька.

— Дык і мой тата пайшоў, — не ўцярпела Жэнька, бо сягоньня-ж усе людзі пайшлі касіць. Я нават ве-

даю, дзе мой тата косіць. Хадзем пад вароты, дык пакажу.

Пасадзіўшы Петрыка, яна ўзьлезла на вароты, узялася аднэю рукою за шуло, а з другое брыль над вачыма зрабіла. Да Зарэчча, дзе косяць касцы, вёрст са дзьве, а можа і больш, і на зялёнай сенажаці відаць толькі белая чарада ні-то гусей, ні-то кароў, больш нічога не разабраць. Але Жэньцы хочацца паказаць, што яна ўсё добра бачыць:

— Вунь там кусьцікі, кусьцікі, кусьцікі, а потым вялікае дрэва. А каля таго дрэва мой тата вунь косіць у белай кашулі і ў шарачковых портках, паяском зялёным падпяразаны...

— І я бачу,—сказаў Сьцёпка.— Вунь мой тата сквалкі есьць, а Настульчын—кашу. Плаўда, Настулька?

— Вот ілгун, ці ты-ж бачыш з зямлі?—абарвала яго Жэнька.

Але Сьцёпка доўга не здаецца і клянецца, што бачыць, як яго тата „сквалкі“ есьць.

Пасьля пайшлі на прыгуменьне, каб адтуль паглядзець, дзе жыта жнуць. Але тут саўсім ужо нельга было нічога ўбачыць, апрача палавога жытняга мора, па якім час-адчасу прабягаў лёгкі ветрык. Толькі дзе-ні-дзе з гэтага мора вытыркалі, як падводныя каменьні, шапкі мэтлікаў, ды, нібы крыло белай птушкі, паказвалася на момант белая хусьцінка жняі.

Тады прышлі зноў на вуліцу ды распачалі гульню. Сьцёпка быў за гаспадара. Ён зрабіў сабе касу з лазовага дубца, які знайшоў каля сьвінога хлеўчыка, ды пайшоў касіць на Зарэчча. Жэнька была за гаспадыню.

Каб Петрык ёй не перашкаджаў, яна пасадзіла яго ў каляску і дала ў ручку моркаву, якую вырвала ў гародзе, як зьбірала сьвіньням бульбянік. Сама яна стала ўвіхацца каля печы, якую знарок для гэтага зрабіў муляр Юзік у пяску каля прызьбы. Не пасьпела яна ўхадзіцца, як ёй нешта стала нядобра—вельмі-ж забалеў жывот. Юзік ужо хацеў па доктара ехаць, каб той прыехаў ды банкі паставіў. Але Юзікаў конь хадзіў на выгане, ніяк не хацеў лавіцца і нават два разы ўбрыкнуў Юзіка (ня гледзячы на тое, што ён быў гліняны і што абедзьве заднія нагі яго былі адбіты). Тымчасам, пакульЮзік зматіўся па доктара ехаць, дык і без яго ўсё добра абышлося: у Жэнькі нарадзілася дзяўчынка Ганулька.



*А яе схапіла за валасы...*

За бабу была Аўдоцьця, а за куму Настулька. Яны абедзьве прышлі на водведы і прынесьлі па вялікім гаршчку ўзвару з груш і чарніц ды па місцы аладак. Кума дык яшчэ і на сукеначку прынесла. Вось яны пачаставаліся ды сядзяць сабе, дудукаючы пра сёе, пра тое, а Жэнька дзіця купае.

Толькі гэта яна пакупала ды сабралася грудзей даць, як Петрык дзіка, прарэзьліва крыкнуў і зайшоўся з плачу. Каля яго стаяла худая чорная сьвіньня. Першы схамянуўся Сьцёпка і, падскочыўшы, сьцебануў сьвіньню зьнячэўку „касою" па сьпіне. Яна спужалася, віскнула і стала ўцякаць. З яе ляпы выпаў кусочак моркавы і разам з ім акрываўлены Петрыкаў пальчык.

Жэнька абхапіла брата і стала крычаць моцна, дзіка, аднатонна. Крычалі абое да хрыпаты, да зьнямогі.

Прышла Сьцёпкава бабка Таццяна, прымачыла ручку зёлкамі і перавязала чыстаю анучкаю, а пальчык падняла і абмыла.

Матцы наказалі. Прыбегшы з поля, яна застала Жэньку з дзіцем прытуліўшыся на палу ў кутку. Хлопец яшчэ плакаў слабенькім ахрыпшым галаском, а дзяўчо толькі ўсхліпвала зрэдку ды трэслася ўсім целам. Маці выхапіла ў яе з рук дзіця, а самую яе схапіла за валасы, сьцягнула з полу і кінула аб зямлю, сама яна стала галасіць над дзіцем ды прыказваць.

Жэнька паднялася з зямлі і ўткнулася галавою ў пасьцель. Яна не магла моцна плакаць, толькі плечы яе ўздрыгвалі ды зьбянтэжана трэслася—мышыны хвосьцік—тоненькая сьветлая коска.

А на стале ляжаў беленькі чысьценькі, малюсенькі пальчык. Той самы пальчык, якім Петрык раніцою паказваў у вакно і казаў: „Мама, му!"





# Піонэры

Увосень памёр у Агаты муж. Засталася яна з чатырма малымі дзяцьмі. Старэйшаму з іх было 7 гадкоў, а маленькай Вольцы ўсяго другі год. Цяжка стала жыць беднай Агаце.

Вось раз паехала Агата ў млын— жыта малоць. Змалола ды едзе дамоў. А было цёмна, гразка...

„Ну, пайшоў, ну!“—крычыць Агата на свайго каня. Ды ня слухае ён яе: па гэткай гразі з возам не разгонісься.

Ехала гэтак Агата, ехала, дый папала з возам у глыбокую выбітую каляіну. Воз абярнуўся. Што тут рабіць? Блізка няма ніводнае хаты. Пачала гукаць Агата. Думала, можа хто пачуе. Не, ніхто не адгукаецца. Стала падымаць мяхі на воз. Ледзь-ледзь падняла і дацягнулася да двара.

У той-жа вечар захварэла Агата. У пасьцелю лягла. Зусім кепска стала ёй з малымі дзецьмі. А тут яшчэ дроў ні палена. На дварэ сьцюдзёна. Нудны васеньні вецер вые, як галодны воўк. Прыпаўзе да Агаты маленькая Волька, прытуліцца да яе і плача:

— Мамка, холадна!.. мамка!..

Плача з дзяцьмі хворая Агата ў халоднай, бруднай хаце.

Даведаліся аб ўсім гэтым піонэры. Хутка сабраліся яны ў школе. Вось адзін з іх кажа:—Таварышы, вы ведаеце, як цяпер жыве Агата. Трэба, чым мага, дапамагчы ёй.

— Я! — адгукнуўся Алесь: — я прапаную папрасіць у бацькоў каня і прывезьці ёй ламачча з лесу.

— А я,—адгукнулася Наста, — прапаную дзяўчатам паліць ёй у печы, памыць падлогу і бялізну.

З усім гэтым згадзіліся. На другі дзень піонэры прывезьлі Агаце дроў. А дзяўчаты памылі падлогу, бялізну, пачалі паліць ёй у печы па чарзе і насіць ваду. Рада бедная Агата.

— За вошта гэта мне, дзетачкі родныя? Відаць, бог вас да мяне прыслаў, пашкадаваў маіх дзетак гаротных!

А піонэры кажуць ей:—„Не чапай ты, цётка, свайго бога, мы яго ня ведаем і ведаць ня хочам. А прышлі мы да цябе самі, бо мы— унучаты Леніна. А ён нам сказаў: „Піонэр—малады ленінец, ён дапамагае бедным рабочым і сялянам, чым толькі можа“.

— Ну, калі гэтак, — кажа Агата,—дык дзякую вам і вашаму дзядзьку Леніну. Падрастуць крыху мае дзеткі і няхай ідуць у ваш атрад вучыцца ўсяму добраму. **А. Ц.**

# КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ.

*(Пачатак глядзі на 2-ой стар. вокладкі).*



*Мал. 3.*

якая ёсьць. Такую ваду трэба прачысьціць. Для ачысткі вады трэба мець невялічкі фільтр, зрабіць які ня цяжка.

Трэба натаўчы каменнага вугля, прамыць добра, для таго, каб вымыць ўвесь пыл. Усыпаць вугаль у густую анучку і абвязаць ёю чым мацней якую-небудзь трубку. Праз такі фільтр ваду можна сьмела піць і не баяцца заразы. Трэба глядзець за тым, каб анучка шчыльна абкручвала трубку.

### Як паставіць палатку.

Самаю лепшаю палаткаю будзе палатка ў форме страхі, зложаная з 6 палоцен.

Кожнае палатно мае ў памеры $1^{1}/_{2} \times 1^{1}/_{2}$ мэтры. Па краёх яго трэба зарубіць (рубец у 5 см.) і павыразаць дзіркі на адлегласьці 10 см. адна ад другой (іх таксама трэба абрубіць). Апрача таго, да кожнага палатна к аднаму з краёў трэба прышыць па 4 колцы. Колца прышываецца пры дапамозе кавалачка матэрыі, якая ўзьдзяецца ў яго.

Дзеля таго, каб паставіць палатку, трэба „сашчапіць“ вяроўкай па два палотны і пасьля ўсе тры пары сшыць паміж сабой такім чынам, каб даўжыня палаткі была 3 мэтры, а шырыня—$1^{1}/_{2}$. Пасьля, праз верх прадзець вяроўку і, калі вы ставіце палатку паміж дрэваў, прывязаць да іх. Калі-ж дрэў няма блізка, дык трэба знайсьці дзьве палкі даўжынёю $1^{1}/_{4}$ мэтры і падперці імі канцы палаткі, працягнуўшы вяроўку ў абодва бакі, і замацаваць яе калкамі. Пасьля трэба на пасобных вяроўках прывязаць калкі і забіць іх пад вуглом у 45°, нахіліўшы ад палаткі. Цяпер палатка нацягнута; глядзеце за тым, каб яна ня моршчыла палоцен.

### Як зрабіць палатно непрамакаемым.

Вазьмеце 40 проц. раствор вадкага мыла, апусьцеце туды палатно і затым адразу пералажэце яго ў 20 проц. раствор медзянога купаросу. Альбо, вымачыўшы палатно ў моцным мыльным растворы і добра выкруціўшы яго, апусьцеце ў насычаны раствор квасцоў.

### Як пазбавіцца ад камароў.

У вадкім, падагрэтым вазэліне трэба распусьціць нафталін і намазаць рукі і твар. Праўда, спачатку будзе шчыпаць, але потым хутка пройдзе. Затое камары не пераносяць паху нафталіну, і вас ня ўкусяць.



*Ну і выкупаліся сёньня!..*

# АБ УСІМ ПАТРОХУ.

## Рэдкая жывёла.



У Нью-Ёрскім зоолёгічным парку мноства каштоўных жывёл. Сярод іх самае ганаровае места займае паказанае на фотографіі страшыдла. Гэтая жывёла называецца лёгуанам. Лёгуан—гэта прадстаўнік вымершай пароды яшчарак, якія калісь жылі ў зваротнікавых краінах. Яго продкі былі волатамі. Ды ён і сам не маленькі. Ня менш і ня больш, як паўтары аршыны даўжынёю. Гэтыя паўтары аршыны здаюцца яшчэ больш, калі яго пастравіць побач з нашымі звычайнымі яшчаркамі і трытонамі.

## Аўтамабільчык Любэна.

Амэрыканец Любэн пабудаваў сабе маленькі аўтамабільчык, на якім падарожнічае па Амэрыцы. Гэты аўтамабільчык важыць ўсяго $2^1/_2$ пуды, і можа імчацца з хуткасьцю да 50 кл. у гадзіну. У часе падарожжа Любэн слухае радыё-перадачы мясцовых станцый, з дапамогаю радыёпрыёмніка, пастаўленага на аўтамабілі. На добрых асфальтавых дарогах Злучаных Штатаў такое падарожжа вельмі прыемна.

Наша фотографія паказвае Любэна ў дарозе.



## Жыцьцё зямлі бяз сонца.

Профэсар Эльвэй з Чыкагскага унівэрсытэту зрабіў падлік, колькі будзе жыць зямля ў тым выпадку, калі-б з прычыны якой-небудзь катастрофы нашае Сонца распалася.

З нагляданьняў над зоркамі (а нашае сонца таксама зьяўляецца зоркай у сусьветным абхваце) устаноўлена, што яны, па нявысьветленых яшчэ чалавекам прычынах, могуць „узрывацца".

Значыцца, і з нашым Сонцам можа здарыцца такая катастрофа. У даным выпадку жыцьцё на Зямлі захавалася-б яшчэ ў працягу 138 гадзін, пасьля чаго газы, якія адкінуліся-б ад сонца ў момант яго распаду, дасягнулі-б зямлі і спапялілі-б усё на ёй.

## Страшыдла ці чалавек?



Калі прыходзіцца падымаць затануўшы параход ці абгледзець дно ракі, пад ваду апускаюцца рабочыя-вадалазы. Для таго, каб страшэнны цяжар вады на вялікіх глыбінях не расьціснуў іх і ў той-жа час не перашкаджаў рабоце—вадалазы адзяюць асаблівыя гарнітуры з сталі. На малюнку і паказаны вадалаз у такім гарнітуры.

## Мурашкі і хірургія.

Па апавяданьнях некаторых падарожнікаў, у нетрах Бразыліі існуе цікавы спосаб зашываньня парэзаных ран. Для таго, каб злучыць краі парэзу, тутэйшы хірург падносіць да раны мурашку буйнай пароды, якая ўтыкае ў яе свае моцныя сківіцы. Як толькі мурашка „мёртвай хваткай" закусіць краі раны, ёй шпарка адразаюць галаву. Адрэзаная галава застаецца на краёх раны у выглядзе дужкі.

ЦАНА 12 кап.




## Чаму зямля круціцца?

Настаўнік (да вучня). Чаму гэта, Янка, наша зямля не стаіць на месцы, а круціцца?

Янка. Бо ёй горача ад сонца. Скажам, і чалавек, калі ляжыць на чарэні печы ды добра прыпячэ яму бок—ён таксама круціцца.

### Белая мыш.

Усе 13 мышэй, якія абкружылі кошку, будуць зьедзены ёю. Але кошка хоча іх зьесьці па чарзе, а менавіта—кожны раз яна адлічвае 13-ю мыш па кругу, у тым



напрамку, у якім глядзяць мышы,—і зьядае яе.

З якой яна павінна пачаць свой абед, каб белая мыш была зьедзена апошняй.

### Шарада № 1.

Маё першае—частка дрэва, маё другое—клічнік (ім каня паганяюць), а ўсё цалкам—будзе матэрыя.

### Шарада № 2.

Маё першае—напітак, маё другое—што селяніну робіць многа бяды, а ўсё разам будуць—ягады.

### Хітрыя дачнікі.



Навокал возера знаходзяцца 4 дачы, а бліжэй да берага 4 хлявы. Дачнікі хочуць адгарадзіцца ад хлявоў наглуха, але быў праход для купаньня.

Ці можна гэта зрабіць? Калі можна, то паспрабуйце зрабіць такі плот, каб ён быў найменшай даўжыні і, вядома, абышоўся-б дзешавей.

## СТРАЛКОВЫ КОНКУРС!

У сувязі з правядзеньнем „Тыдню абароны“ (з 15 па 22 ліпеня), піонэрская організацыя праводзіць усесаюзны стралковы конкурс старэйшых піонэраў (13-16 г.)

Усе піонэры, якія ўдзельнічаюць у стралковых гуртках, прымаюць удзел у конкурсе, а таксама і піонэрскія атрады.

Конкурс праводзіцца такім парадкам:

З 1-га па 15 ліпеня праводзяцца конкурсы па атрадах, гуртках, на якіх і выяўляюцца лепшыя стралкі. З лепшых стр. складаюцца каманды лікам у 5 асоб.

У гарадох спаборніцтвы паміж камандамі адбываюцца ў агульна-гарадзкім маштабе, з 15-га па 22 ліпеня.

У вясковых раёнах, дзе магчыма будзе організаваць, конкурсы праводзяцца ў раённых цэнтрах.

У „Тыдзень абароны“ галоўнае заданьне—выявіць лепшага стралка-піонэра.

Піонэрскія атрады! Вазьмецеся за правядзеньне стралковага конкурсу, пакажэце як вы ўмееце страляць

1-ая Дзярж. друк. Зак. № 2685. У ліку 2.000 экз. Галоўлітбел № 1573.

DEVLET